# Выбраныя малітвы з малой падарожнай кніжкі






Выдавецтва "Божым шляхам"
Лёндан 1992

Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі
Пераклад на сучасную беларускую мову і каментары
а. Аляксандра Надсона

Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY, England

## Малітва ў Тройцы адзінаму Богу ў нядзелю раніцай



ворча і Ўладару ўсіх, Божа мой і Збавіцелю, Цябе ўзьвялічваю, Табе малюся, Цябе ўслаўляю, і да Цябе я, нягодны, прыпадаю; бо Ты ўчыніў мяне дастойным бачыць сёньняшні дзень сьвятога Твайго ўваскрасеньня, і не скараціў бескарыснага жыцьця майго дзеля грахоў маіх. Бачу, Госпадзе, невыказныя даброты Твае, і пазнаю бязьмежную міласэрнасьць Тваю: бо Ты прывёў мяне з нябыту да быцьця і ўпрыгожыў сваім вобразам; душою і розумам Ты зрабіў мяне роўным анёлам, целам і моваю ўзвысіў мяне над жывёламі. Да ўсяго гэтага Ты даў мне пазнаць Цябе, Бога ў Тройцы адзінага, і хрышчэньнем вырваў мяне з моцы злога ворага; Ты даў мне навуку і закон збавенны, і абяцаў уваскрасеньне і жыцьцё вечнае. Над усё Ты захацеў сысьці з пасаду Твайго нябеснага дзеля нас, ступіць на зямлю і ва ўлоньні Усячыстае Дзевы цела падобнае людзкому прыняць, трыццаць тры з паловаю гады на зямлі пражыць, усе нашы цяжкасьці і боль на сабе дасьведчыць, і самому памерці, каб нас ажывіць. Будучы пакладзеным у магілу, Ты нас ад пекла выбавіў. Уваскросшы з мёртвых, нам шлях да валадарства нябеснага адчыніў. Госпадзе Божа мой, што дам за ўсё, што Ты ўчыніў для мяне? Імя Тваё сьвятое клічу і малюся Табе: дзеля бязьмежнае любові Тваёй, якую Ты маеш да роду людзкога; дзеля жыцьцядайнай магілы Тваёй і Твайго ўсяхвальнага трохдзённага ўваскрасеньня, прымі ад мяне гэтыя прачулыя малітвы і даруй мне адпушчэньне грахоў, здароўе цела, розуму прасьвятленьне, ад смутку вызваленьне, ад недамаганьняў выздараўленьне, на зямлі сумленнае і працавітае жыцьцё, ад варожай няволі вызваленьне, за грахі горкі жаль, а пасьля сьмерці валадарства нябеснае на ўсе вякі. Амін.

## Малітва Імю Ісусаваму



оспадзе Ўладару Ісусе Хрысьце, Творча і Божа наш, мы клічам імя сьвятое Тваё і молімся Табе:

Ісусе, Сыне ўсячыстае Дзевы Марыі;
Ісусе, адзінае і спрадвечнае Слова Бога Айца;
Ісусе, супольнасьць і любоў Духа Сьвятога;
Ісусе, творча анельскай прыроды;
Ісусе, Збавіцелю роду людзкога;
Ісусе, праганіцелю бесаўства ўсякага:
Ісусе, зьмілуйся нада мною ў вялікай міласэрнасьці Тваёй;
Ісусе, ачысьці беззаконьне маё ў бязьмежнай дабраце Тваёй;
Ісусе, адпусьці грахі мае;
Ісусе, прымі гэтыя малітвы мае:

О, салодкі Ісусе! О, любы Ісусе! О, ціхі Ісусе! Табе славу аддаем разам з Айцом і Ўсесьвятым Духам на вякі вякоў. Амін.

## Малітва да Ўкрыжаванага Хрыста



бавіцелю наш, Госпадзе Ісусе Хрысьце, бачу Цябе павешаным на крыжы дзеля Тваёй вялікай любові роду людзкога. Галаву маеш нахіленую, хочучы пачуць малітвы ўсіх нас; сэрца маеш адчыненае, хочучы даць усім ласку Тваю; рукі маеш расьцягненыя, хочучы ўсіх нас да сябе прыгарнуць; ногі маеш прыбітыя цьвікамі, хочучы быць заўсёды з грэшнікамі. Малю Цябе сёньня: дзеля Тваё горкае сьмерці і пачэснага крыжа пачуй малітвы мае, пашлі мне ласку Тваю, прыгарні мяне да сябе, і будзь са мною ў час сьмерці маёй. Амін.



## Малітва аб муках Госпада нашага Ісуса Хрыста



оспадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Бога Жывога, Творча неба і зямлі, Збавіцелю роду людзкога, вось я грэшны і нягодны ўспамінаю мукі Твае і дзякую Табе, Богу нашаму, што Ты захацеў зысьці з пасаду Твайго нябеснага і збавіць нас ад вечных мукаў. Прыняўшы цела ад найчыстае Дзевы, будучы сам бесьцялесным, Ты злучыў нашую цялесную прыроду з Боствам. Будучы багатым, Ты зьбяднеў дабравольна, каб нас зрабіць багатымі ў валадарстве Божым. Ты цярпеў сьцюжу, сьпёку, голад, смагу і нагату, і ўзяў на сябе ўсе нашы цяжкасьці, каб нас успамагчы ва ўсякай бядзе. Ты пасьціўся сорак дзён і сорак начэй, паказаўшы нам шлях да ўстрыманасьці. Ты быў спакушаны д'яблам, каб нас выбавіць ад спакусаў. Ведаю, Уладару, што ўсё гэта Табе непатрэбна было, але Ты пацярпеў дзеля нашага збаўленьня. Ты быў прадады Юдаю за трыццаць сярэбранікаў, каб нас выкупіць ад варожае сілы; быццам ягнё быў схоплены неміласэрнымі людзьмі, каб нас з пашчаў ваўкоў духоўных выхапіць; стаў на судзе перад Аннаю і Каяфаю, каб нас ад суду вечнага вызваліць; быў зьвязаны, паніжаны, біты і аплёваны, абвінавачаны ілжывымі сьведкамі і асуджаны на сьмерць, каб вызваліць нас ад мукаў і вечнае сьмерці. Ты быў прыведзены як злачынец да Пілата, да Гэрада пасланы, на зьдзек апрануты ў чырвоную рызу, каб нас ад зьдзеку ворага вызваліць. Што дамо Табе за ўсё, што Ты ўчыніў для нас грэшных? Нашы душы і целы, і ўсё, што маем — ад Цябе, і на міласэрнасьць Тваю спадзяемся.

Ты, што быў прывязаны да слупа і бязьлітасна біча-ваны, разьвяжы путы грахоў маіх; цярнёвай каронай каранаваны, душы маёй церне выкарані; апрануты ў чырвоную вопратку і аддаНы мучыцелям, апрані маю душу ў вопратку страху Твайго. Да злачынцаў залічаны, крыжам Тваім, які Ты нёс на плячах сваіх, адгані ад мяне ворагаў, што шукаюць нашай загубы.

Бачу Цябе, Ісусе мой шматміласэрны, параненага, без здаровага месца ад галавы да ног, і што ж магу сказаць аб

Тваім вялікім чалавекалюбстве, як толькі ўсклікнуць: зьмілуйся нада мною. Ты, што захацеў быць прыбітым да крыжа, прыгвазьдзі да запаветаў Тваіх сэрца маё; узьняты разам з крыжам, узьнімі да нябёсаў думкі мае; жоўцю і воцатам напоены, пагасі ва мне слодыч грахоўную. О дзіўная і невыказная глыбіня міласэрнасьці! Ты маліў Бога Айца за ворагаў, якія Цябе расьпялі: дай і нам ласку любіць ворагаў нашых. Разбойніку, што пакаяўся, Ты рай адчыніў: глянь, Сьвяты, на маё пакаяньне і ўспомні мяне ў Тваім валадарстве. У канцы Ты аддаў у рукі Богу дух свой: прымі, Творча, дух мой у час горкае сьмерці маёй. Амін.

## Малітва да Найсьвяцейшай Багародзіцы і Заўсёды дзевы Марыі з пакорным і скрушлівым сэрцам



рымі, Уладарка, малітву слуг Тваіх і збаў нас ад усякае патрэбы і суму. Ты, Багародзіца — наша зброя і сьцяна, Ты наша Заступніца: да Цябе прыбягаем, Цябе цяпер на малітву клічам, просячы выбавіць нас ад ворагаў нашых; і ўзьвялічваем Цябе, усебеззаганную Маці Бога нашага, якую ацяніў Дух Сьвяты.





БЛАГОВЕСТѴЕТЬ ГАВРИІЛЪ

прѐчистой дѣвици богородици марии

## Малітва пабожная да Найсьвяцейшае Багародзіцы Марыі



Радуйся, усесьвятая Марыя, служэбніца
жыцьцядайнае Тройцы
Радуйся, духмяная лілея, улюбёная Тварца
Бога Айца;
Радуйся, найчыстая Дзева, Маці Госпада
нашага Ісуса Хрыста;
Радуйся, наймілейшая галубка, жаданая Пацяшыцеля
Сьвятога Духа;
Радуйся, найдастойнейшая Спадарыня, радасьць
хораў анельскіх;
Радуйся, вежа непранікальная і мучэньне збораў
бесаўскіх;
Радуйся, найпрыгажэйшая Дачка і развязаньне граху
Адамавага;
Радуйся, сільная вера, і зьнішчэньне праклёну Эвінага;
Радуйся, слаўная Ўладарка, мэта ўсіх патрыярхаў;
Радуйся, існая Багародзіца, размнажэньне сыноў
Ізраілевых;
Радуйся, усяхвальная слава і спаўненьне ўсіх
сказаньняў прароцкіх;
Радуйся, мудрая галава і навучаньне Хрыстовых
апосталаў;
Радуйся, усясьветлая хвала і ласка чатырох
эвангелістаў;
Радуйся, вялікая сіла і мужнасьць сьвятых мучанікаў;
Радуйся, любая цішыня і паўстрымлівасьць пачэсных
вызнаўцаў;
Радуйся, высокая сьцяна і цярплівасьць багалюбных
манахаў;
Радуйся, ясная зорка і краса чыстых дзеваў;
Радуйся, ціхае прыстанішча і заступніца сірот
і ўдоваў:

Будзь са мною ва ўсякай маёй патрэбе дзеля вялікай радасьці, якую Ты мела пры зачацьці Сына Божага; пачуй маю недастойную малітву і памажы мне ў суме маім. У рукі Твае аддаю самога сябе: захавай душу маю, аздараві цела маё, прасьвятлі розум, напраў учынкі мае; накіруй думкі мае да Бога, сэрца маё ўмацуй у добрым; памяць наставі ў запаветах; накіруй вочы мае да неба; сумленьне маё ачысьці ад грахоў; аддалі ад мяне пажаданьні цялесныя; адгані д'ябальскія спакусы; захавай ад агульнага сораму; вызваль ад нечаканае бяды, ня дай прыйсьці суму, жалю і роспачы; вызваль ад вечнага агню. Прымі ад мяне гэтую пахвалу, даючы мне ўзамен радасьць духоўную і робячы мяне дастойным радасьці вечнае.

Радуйся, поўная ласкі Марыя, Госпад з Табою на вякі вякоў! Амін.

## Малітва да сьвятых Апосталаў



Уладару Госпадзе, усемагутны Цару, да апосталаў сьвятых Тваіх з пакорнай душой прыпадаю, бо веру, Збавіцелю, што малітва выбраных Тваіх да Цябе можа шмат. Дзеля гэтага малюся табе, сьвяты апостале Пятро, першапасадніча апостальскі, цьвёрды камень веры Хрыстовае, непарушная аснова Царквы Хрысьціянскае, пастыру статку Хрыстовага, ключару валадарства нябеснага, рыбаку ў глыбінях няведаньня: хай абдыме мяне Боская твая сецьць, і хай выцягне мяне са згубнай глыбіні. Ведаю, што ты прыняў уладу ад Бога зьвязваць і разьвязваць, дык разьвяжы мяне зьвязанага путамі грахоўнымі.

Паўле, любы Хрыстовы, посудзе выбраны, нябесны чалавеча, зямны анёле, настаўніча ўсіх народаў, труба царкоўная: ты зазнаў шмат бедаў дзеля імя Хрыстовага, мора перамерыў і зямлю абышоў, і нас ад спакусы ідальскае адвярнуў. Цябе клічу, не пагардзі мною з асьлеплымі вачыма душы маёй, выцягні мяне з сеці варожае, і ўмацуй чыніць волю Божую.

Сьвяты вялікі Яне багаслове, дастойны посудзе, наперсьніку Хрыстовы, арол высакалётны, Божых тайніцаў апавядальніку, пахвала Эфэская, настаўніку Патмаса, евангелісьце Ісусавы, памаліся за мяне грэшнага да шчодрага Ўладара, які цябе любіць, бо твая малітва можа шмат.

Сьвяты Лукашу, Боскі евангелісьце, дзеяньняў апостальскіх складальніку, духоўны скарапісцу, багамудры лекару, малі Тварца майго, каб Ён аздаравіў душу маю.

Сьвяты Марка Александрыйскі, сьветачу ягіпскі, непераможны леў, пахвала Вэнэцыі, Хрыстовых цудаў апісальніча, малі за мяне Чалавекалюбца Бога, каб Ён даравaў мне мае грахі.

Сьвяты Мацьвею, першы евангелісьце, што пакінуў мытніцу і ўсё грэшнае дзеля Хрыста, аб чым уцелаўленьні ты ясна напісаў, малі Яго, каб Ён зьмілаваўся нада мною.

Сьвяты Андрэю, першапаклікaны апостале Хрыстовы, што першы паказаў Пятру Мэсыю-Ісуса, Ахаю да боскай веры навярнуў, і сам за Хрыста, настаўніка твайго, на крыжы сьмерць прыняў; Сьвяты Якубе, браце Яна, першы мучаніча сярод апосталаў, ты, што Гішпанію і ўсе заходнія краіны целам сваім слаўна прасьвятляеш; Сьвяты Тамашу, апостале Хрыстовы, што ўдастоіўся ўлажыць два пальцы ў рэбры Ягоныя, ты Індыю і ўсе дзяржавы ўсходнія у веры.Гаспoдняй умацаваў; Сьвяты Баўтрамею апостале, што не пашкадаваў скуры сваёй цялеснай, але даў яе зьдзерці дзеля Хрыста; Сьвяты Піліпе апостале, што прасіў Хрыста паказаць нам Айца свайго нябеснага; Сьвяты Тадэю, выбраны Божы апостале і ўсе вучні: прыміце ад мяне недастойнага гэтую пакорную малітву, і маліцеся Уладару, каб Ён даў нам на зямлі супакой, а пасьля сьмерці валадарства нябеснае. Амін.

## Малітва пабожная да Анёла Апекуна

О прадвечны Божа ўсемагутны, Ты стварыў духі пасланцамі сваімі, і слугамі сваімі полымя агоню, і даў ім месца на вышыні, каб заўсёды бачылі Твой твар. Будучы Духам, Ты хацеў ад духаў мець пахвалу; Будучы Любоўю, Ты хацеў адчуць любоў ад іншых істотаў. Але шатан непакорлівы не захацеў аддаць пашану Табе, Тварцу свайму; загарэўшыся гордасьцю — ён і тыя, што да яго далучыліся, — ён зажадаў мець свой пасад паўночны. Яго бачыў Ты, Хрысьце, як ён, быццам маланка, з неба зьляцеў.



Пасьля Ты стварыў жывёлы цялесныя неразумныя на зямлі, у моры і ў паветры, каб магла быць пазнаная Твая бязьмежная мудрасьць і невыказная дабрата. У канцы Ты стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства, каб заняў месца шатана, які адпаў: душою падобнага да анёлаў, а целам да жывёлаў. Ты ўчыніў яго мала меншым за анёлаў, славаю і пашанаю вянчаў. Ты даў яму ўладу над усімі зьвярамі, рыбамі і птушкамі, і да гэтага анёлам сваім загадаў, каб заўжды сьцераглі яго, як Ты сам гаварыў Майсею слузе Твайму: "Вось Я пасылаю анёла майго, ён пойдзе перад Табою, будзе ахоўваць цябе ў дарозе, і давядзе да месца, якое Я прыгатаваў табе; трымайся яго і слухай ягонага голасу, не пагардзі ім: не адпусьціцца табе, калі зграшыш, бо імя Маё у ім". Госпадзе Ўладару і Творча ўсякага стварэньня, дзеля такіх вялікіх і невыказных дабротаў, якія Ты ўчыніў роду людзкому, недастойныя малітвы нашы прымі, і як Ты сам загадаў мець у пашане анёла свайго, успамажы нас вялікай ласкаю Тваёю, каб нам ані словам, ані ўчынкам, ані думкаю не супраціўляцца сьвятой волі Тваёй і ахоўніку душ нашых і целаў; адпусьці нам грахі нашы, дай жаль сардэчны за беззаконьні нашы; бо анёлы Твае цешацца вельмі дзеля аднаго грэшніка, які пакаяўся. Цябе ж, сьветлы анёле, апекуне мой, прашу: прымі ад мяне гэтую малітву, захавай і навучы мяне, і папраў ва ўсіх учынках маіх. Бо ты, што сьцеражэш душу маю і цела, заўсёды бачыш твар Бога: дык малі Яго, каб Ён увёў мяне ў валадарства сваё разам з табою на вякі. Амін.

## Малітва да сьвятых Анёлаў



На вас, як да заступнікаў і ахоўнікаў жыцьця нашага, я няшчасны і многагрэшны прыбягаю і, молячыся, прашу вашай міласьці, сузіральнікі Божай велічы, сьвятыя анёлы, што пачэсны пасад Жыцьцядайнай Тройцы са страхам акружаеце, асьветленыя невыказным зьзяньнем Бо-

жае славы і моліце усямудрага і добрага Чалавекалюбца, каб выбавіў нас ад усяго благога. Сьвяты вялікі начальніча анёлаў Міхале, першы палкаводча адзінасутнае Тройцы, прыстаўніча і апекуне роду хрысьціянскага, што зьзяеш цудамі на ўвесь сьвет: захавай мяне сёньня ад усякай спакусы злога і ад благіх учынкаў; адчыні слых вушаў маіх, каб мне пачуць і зразумець душакарысныя словы Божыя; і каб нутранымі вачыма мне бачыць і пазнаць усе грахі мае, якія я ўчыніў на маім жыцьцёвым шляху і ўгнявіў нязлоснага і доўгацярплівага Тварца майго, перад якім стаяць нябесныя сілы, і нярэчыўнымі вуснамі пяюць тройчы сьвятую песьню: хай яны памоляцца за мяне недастойнага, бо ведаю, што больш за іншых людзей я ўчыніў благое і непрыстойнае перад Богам; але ня трачу надзеі, ведаючы веліч Ягонай доўгацярплівасьці, і на міласэрнасьць Ягоную спадзяюся.

Сьвяты арханёле Габрыэлю, радасьці хадайніча, і збаўленьня добры вестуне, перамяніцелю смутку, і ўсякага зла зьнішчальніча: будзь мне памочнікам у кожнай патрэбе маёй, і захавай мяне ад усіх ворагаў маіх бачных і нябачных.

Сьвяты Урыле, што палаеш боскай любоўю і ўсе духі нячыстыя палымянай зброяй разганяеш: малюся табе, запалі ва мне агонь любові Тварца майго, адгані ад мяне ўсіх духаў нячыстых, што прыводзяць да спакусаў, цяпер і ў часіну сьмерці маёй.

Сьвяты Рафаэлю, што стаіш заўсёды перад абліччам Божым: падымі легіёны анёлаў Божых, каб яны памаліліся за мяне недастойнага і грэшнага, які каецца з сваіх мінулых непрыстойных ўчынкаў; ведаю, што існасьць мая сьмяротная, і калі б не дажыў да вечара, ня дай, каб вораг мой усьцешыўся кажучы: Гэты чалавек змарнаваў жыцьцё, і дні яго быццам цень мінаюць. Але Ты, Госпадзе вечны, у вялікай міласэрнасьці Тваёй глянь на мяне і зьмілуйся нада мною, і выведзі душу маю з цемры беззаконьня. Прымі анёлаў Тваіх, што моляцца за мяне, якіх Ты пасылаеш на ахову кожнаму чалавеку; арханёлаў вестуноў Тваіх тайнаў; пачаткі, што навучаюць нас запаветам Тваім; сілы, што моцных праціўнікаў перамагаюць; улады, што сьцерагуць уладароў; пасады, што перад пасадам Велічы Тваёй заўсёды стаяць; гаспадарствы, што на загад Твой цуды на зямлі чыняць; хэрувімаў, што тройчы сьвятую песьню пяюць; сэрафімаў, што найбліжэй у любові Боскасьці Тваёй прабываюць; і ўсе нябесныя бесьцялесныя войскі: хай яны памоляцца за мяне грэшнага і недастойнага слугу Твайго. Амін.



## Малітва да вялікага сярод прарокаў пачэснага і ўсахвальнага Прадвесьніка і Хрысьціцела Гасподнага Яна



Шчатлівы Яне Хрысьціцелю, выбраны ў целе анёле Божы, што прыйшоў перад абліччам Госпада прыгатаваць Яму шлях: ты паказаў нам Ягнё Божае, Госпада нашага Ісуса Хрыста, які ўзяў на сябе грахі сьвету; ты хрысьціў у Ярдане нашага Збавіцеля і абʼявіў нам тайну жыцьцядайнае Тройцы; ты апярэдзіў Госпада нараджэньнем, навучаньнем і мучэньнямі. Табе малюся: прымі ад мяне гэтыя малітвы і ўмалі Бога майго зьмілавацца над грэшнай душой маёй.



Начинаетсѧ Акаѳїстъ
Пресладкомꙋ Їмени
Гдⷭ҇а нашего Ї҃са Х҃а глаголемы по всѧ дни :~

# Акафіст імю Ісусаваму

## Вершы перад Акафістам

Ісусе Збавіцелю наш, славячы Цябе недастойнымі вуснамі, успамінаем дзівоснае імя Тваё. Бо імю Ісуса пакланяецца ўсякае калена на небе, на зямлі і ў апраметнай, і кожны язык вызнае, што Госпад Ісус Хрыстос на славу Бога Айца. Дзеля гэтага пяём Табе: Алілуя.

Анёлы ў небе аддаюць пашану вялікаму імю Твайму, Ісусе, які сядзіш па правай руцэ Бога Айца. Успамін аб ім салодкі на зямлі для людзей, бо Ты збавіў нас ад вечнае сьмерці. Яно страшнае для збору бесаўскага ў бездані, бо Ты скрышыў сілу іх. Мы ж, выбаўленыя ад іх, пяём Табе, Ісусе: Алілуя.

Прыстоіць нам хрысьціянам цешыцца, Ісусе салодкі, аб іменьні Тваім, аб якім і анёл, абвяшчаючы добрую вестку Найчыстай Дзеве, казаў: "Ня бойся, Марыя, бо Ты знайшла ласку ў Бога. Вось зачнеш ва ўлоньні і народзіш сына, і дасі імя яму 'Ісус'". Дзеля гэтага мы ўсе верныя пяем: Алілуя.

Слава Айцу, і Сыну, і Сьвятому Духу.

Авакум, прарочачы аб імю Тваім , Ісусе, Сыне Божы, так сказаў: "Узрадуюся ў Госпадзе і ўсьцешуся ў Богу Ісусе маім; Госпад Бог — сіла мая". Дзеля гэтага і мы, славячы ўсесьвятое імя Тваё, пяём: Алілуя.

Цяпер, і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.

Лекару душ і целаў, Ісусе дарагі, аздаравi немачы цялесныя, вылеч недамаганьні душэўныя, выбаў ад мукі агню, дай вечны супакой усім, што хваляць усесьвятое імя Тваё і пяюць: Алілуя.

## Акафіст

### Кандак 1

Дай нам, Ісусе Сыне Божы, розум і адчыні нашы вусны, каб нам абвяшчаць славу Імю Твайму — як некалі Ты вярнуў слых і мову нямому і глухому, кажучы "Эфэта", што значыць "Адчыніся". І вось адчыніліся вушы яго і язык яго пачаў гаварыць, і ён усклікнуў: Алілуя.

### Ікас 1

Вочы сэрца нашага прасьвятлі, Ісусе, сьвятлом Боскага Твайго зьзяньня, як некалі прасьвятліў сына Цімеева, Баўтрамея сьляпога, які клікаў: "Ісусе Сыне Давіда, зьмілуйся нада мною". Так і мы клічам:

Ісусе, Божа спрадвечны;
Ісусе, Уладару магутны;
Ісусе, Госпадзе доўгацярплівы;
Ісусе, Збавіцелю многаміласэрны;
Ісусе, прасьвятлі вочы мае, каб я не заснуў на сьмерць;
Ісусе, адчыні вусны мае, каб я мог уславіць Цябе;
Ісусе, ачысьці ўсе мае беззаконьні;
Ісусе, адпусьці ўсе мае грахі;
Ісусе, надзея мая, не пакінь мяне;
Ісусе, Творча мой, не загубі мяне;
Ісусе, успамажы мяне беднага;
Ісусе, прымі мяне, які каюся;.
Ісусе Вялікачалавекалюбча, адчыні вусны мае.

### Кандак 2

Да Цябе прыбягаем, Ісусе: збаў нас і аздараві немачы нашы, як ты гэта ўчыніў у зямлі Генісарэцкай, калі прынесьлі да Цябе ўсіх хворых і малілі Цябе, каб ім толькі дакрануцца да краёў вопраткі Тваёй; і ўсе, што дакраналіся, былі аздароўленыя і ўсклікнулі: Алілуя.

### Ікас 2

Цёшчу Пятрову, што мучылася гарачкаю, Ты аздаравіў, усклаўшы на яе рукі Твае, Ісусе, Сыне Божы; дык молімся



Табе, вылячы нас ад агню цялесных пажаданьняў, і запалі ў нас агонь міласэрнасьці Тваёй, каб мы, палюбіўшы Цябе, маглі клікаць:

Ісусе, слодыч сардэчная;
Ісусе, сьветласьць душы;
Ісусе, надзея пэўная;
Ісусе, памяць вечная;
Ісусе, слава, што ўздымае галаву маю;
Ісусе, хвала, што ўмацоўвае сілу маю;
Ісусе, прасьвятлі душу маю сьветласьцю вечнаю;
Ісусе, ачысьці сэрца маё ласкаю Тваёю;
Ісусе, Божа праўдзівы ад Бога праўдзівага;
Ісусе, што прасьвятляеш усякага чалавека, які на сьвет прыходзіць;
Ісусе, не адкінь мяне ад твару Твайго;
Ісусе, не адымі ад мяне Духа Сьвятога Твайго;
Ісусе Вялікачалавекалюбча, пачуй малітву маю.

### Кандак 3

Ачысьці, Ісусе, праказу душы маёй і адпусьці мне грахі мае, так як Ты, зышоўшы з гары, ачысьціў пракажонага, які кланяўся Табе і казаў: "Госпадзе, калі хочаш, можаш ачысьціць мяне"; Ты ж, Збавіцелю, працягнуўшы руку Тваю і дакрануўшыся да яго, сказаў: "Хачу, ачысьціся"; і вось ён ачысьціўся і ўсклікнуў: Алілуя.

### Ікас 3

Ты аздаравіў у суботу чалавека, які меў сухую руку, кажучы: "Наколькі лепшы чалавек ад авечкі: дзеля гэтага належыцца і ў суботу чыніць дабро". Мы таксама, Уладару і Збавіцелю, прыпадаем да Цябе, просячы аздаравіць рукі нашы ад благога дзеяньня, каб нам у песьнях славіць імя Тваё:

Ісусе, непераможная сіла;
Ісусе, бясконцая міласэрнасьць;
Ісусе, краса радасная;
Ісусе, любоў невыказная;
Ісусе, Сыне Бога жывога;

Ісусе, народжаны з найчыстага ўлоньня;
Ісусе, зьмілуйся нада мною грэшным;
Ісусе, пачуй мяне, зачатага ў беззаконьні;
Ісусе, навучы мяне і буду навучаны;
Ісусе, прасьвятлі мяне і буду прасьветлены;
Ісусе, благаславі мяне і буду благаславёны;
Ісусе, збаў мяне і буду збаўлены;
Ісусе Вялікачалавекалюбча, ачысьці грэшную душу маю.

Кандак 4

Фарысэі, зышоўшыся, учынілі раду супроць Цябе, Ісусе, хочучы загубіць Цябе; Ты ж, Збавіцелю, разумеючы намеры іх, адышоў адтуль; за Табою ішло мноства народу і Ты аздараўляў усіх. Мы таксама клічам : Ісусе, аздараві ўсе нашы немачы душэўныя і цялесныя, каб нам, будучы здаровымі, усклікнуць Табе, Богу нашаму: Алілуя.

Ікас 4

Начальнік нейкі прыйшоў да Цябе, Ісусе, кажучы, што дачка яго паміраe, але Ты, прыйшоўшы, узлажы руку Тваю на яе, і яна ажыве. Вось і мы, Уладару Ісусе, прыходзім да Цябе і просім: ажыві нас міласэрнасьцю Тваёю, каб нам узьвялічваць Цябе, пяючы:

Ісусе, Творча вышэйшых;
Ісусе, адкупіцелю ніжніх;
Ісусе, пераможца апраметнай;
Ісусе, усяго стварэньня краса;
Ісусе найсалодшы, душы маёй радасьць;
Ісусе дарагі, розуму майго прасьвятленьне;
Ісусе ўсядобры, сэрца майго вясельле;
Ісусе ўсясільны, цела майго аздараўленьне;
Ісусе, збаў мяне і зьмілуйся нада мною;
Ісусе, сьвятлом вечным прасьвятлі мяне;
Ісусе, мукі ўсякае вызваль мяне;
Ісусе, у валадарства нябеснае ўвядзі мяне;
Ісусе Вялікачалавекалюбча, прабач беззаконнай душы маёй.



Кандак 5

О ўсядобры Ісусе, які накарміў удосталь пяцьмі хлебамі пяць тысяч людзей, і засталося яшчэ астаткаў дванаццаць поўных кашоў, молімся Табе, Збавіцелю, насыць нас галодных хлебам нябесным, усесьвятым словам Тваім, каб нам усклікнуць Табе: Алілуя.

Ікас 5

Мноства вучняў Тваіх, Ісусе, з радасьцю славілі ўсесьвятое імя Тваё, абвяшчаючы аб усіх цудах Тваіх і ўсклікаючы: "Благаславёны Цар, які прыходзіць у Імя Гасподняе, мір на небе і слава на вышынях". Мы ж, Збавіцелю, бачачы Твае вялікія і невыказныя дзеяньні, славім Цябе ў песьнях:

Ісусе, Уладару ўсяслаўны;
Ісусе, Ягнё беззаганнае;
Ісусе, пастыру дзіўны;
Ісусе, карміцелю шчодры;
Ісусе, апекуне дзяцінства майго;
Ісусе, настаўніча маладосьці маёй;
Ісусе, пахвала старасьці маёй;
Ісусе, надзея мая ў час сьмерці;
Ісусе, Творча ўсяго стварэньня;
Ісусе, адкупіцелю Хрысьціянскага роду;
Ісусе, ня будзь памятлівы маіх правінаў;
Ісусе, адпусьці мае беззаконьні;
Ісусе Вялікачалавекалюбча, збаў лютую душу маю.

Кандак 6

Калі Ты, Ісусе, прыбліжаўся да варотаў гораду Наін, адтуль выносілі адзінага сына маці, што была ўдавою. Ты ж, Збавіцелю, убачыўшы, зьмілаваўся над ёю і сказаў: "Ня плач". Падышоўшы, Ты дакрануўся да цела, і калі тыя, што несьлі яго, затрымаліся, сказаў: "Юнак, табе кажу: устаны" І вось мёртвы сеў і пачаў гаварыць; і Ты аддаў яго маці ягонай. Мы ж, што памерлі грахоўнай сьмерцю, молімся Табе, Ісусе: выбаў нас ад вечнае сьмерці, каб нам пець: Алілуя!

Ікас 6

У нейкага сотніка захварэў моцна слуга, і той, пачуўшы пра Цябе, Ісусе, у Капэрнауме, паслаў старэйшых гэбрайскіх прасіць Цябе, каб Ты, прыйшоўшы, аздаравіў яго. Пасьля паслаў ён іншых, кажучы: "Не прыходзь, Госпадзе, бо я недастойны, каб ты увайшоў пад страху дому майго, але скажы адно слова, і слуга мой выздаравее". Мы ж, недастойныя, просім Цябе: скажы адно слова і душа наша будзе збаўленая, і будзем славіць сьвятое імя Тваё, кажучы:

Ісусе, сьвятло нябеснае, ярчэйшае за кожнае іншае сьвятло;
Ісусе, Збавіцелю праўдзівы, мэта ўсіх нашых жаданьняў;
Ісусе, Уладару слаўны, што перамагаеш усе сілы!
Ісусе, Божа вечны, заўжды міласэрны;
Ісусе, хлеб жыцьця, накармі ўдосталь мяне галоднага!
Ісусе, крыніца шчодрая, напаі мяне сасмаглага!
Ісусе, вопратка нагіх, апрані мяне тленнага!
Ісусе, прытулак падарожных, прымі мяне недастойнага!
Ісусе, памочніча тых, што ў патрэбе, дай мне плач за грахі мае!
Ісусе, скарб тых, што шукаюць, знайдзі сэрца маё!
Ісусе, адчыніцелю тым што стукаюць, адчыні вусны мае!
Ісусе, адкупіцелю грэшных, ачысьці беззаконьні мае!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, узбагаці жыцьцё маё.

Кандак 7

Адвеку нечувана было, каб Бог Ісус на зямлі зьявіўся і пажыў сярод людзей, нашы недамаганьні і хворасьці на сябе ўзяў, і каб мы ранамі ягонымі былі збаўленыя. Быццам авечка перад тымі, што стрыгуць яе, быў нямы і як баранчык быў ведзены на сьмерць, але як Бог з мёртвых уваскрос і нам жыцьцё вечнае дараваў, узьнёсшыся на неба. Дзеля гэтага мы ўсе верныя пяём: Алілуя!.



Ікас 7

Род людзкі дівіцца Твайму, Ісусе, бясьсеменнаму зачацьцю: быццам сонечны прамень, што праходзіць праз шкло, так ты дзявочае ўлоньне прайшоў у нараджэньні Тваім; і як здань праходзіць паветра, так і Ты ўстаў пасьля трох дзён з магілы, не пашкодзіўшы пячацяў, і апосталам зьявіўся пры зачыненых дзьверах. Дзеля гэтага мы ўсе ў подзіве пяём:

Ісусе, Слова Божае і Творча ўсяго стварэньня!
Ісусе, сьвятло недасяжнае, і папраўца Адамавага падзеньня!
Ісусе, Сыне Марыі і Збавіцелю роду людзкога!
Ісусе, мудрасьць вечная і пераможца пякельнага ўладарства!
Ісусе, зрабі нас дастойнымі збаўеннага ўдзелу з Табою!
Ісусе, ня будзь памятны многіх правінаў маіх!
Ісусе, не адымі ад мяне праведных дабротаў Тваіх!
Ісусе, запішы мяне ў кнігах Тваіх!
Ісусе, Збавіцелю мой, збаў мяне!
Ісусе, Уладару мой, заступіся за мяне!
Ісусе, Госпадзе мой, прабач мне!
Ісусе, лекару мой, аздараві мяне!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, не адкінь мяне!

Кандак 8

Піліп, апостал Твой, Ісусе, пытаў Цябе: "Госпадзе, пакажы нам Айца, і досыць нам будзе". Ты ж, Збавіцелю, адказаў яму: "Столькі часу Я з вамі і вы ня ведаеце Мяне, Піліпе: хто бачыць Мяне, бачыць Айца. Як жа ж ты кажаш: Пакажы нам Айца; ці ж ня верыш, што Я ў Айцу і Айцец ва Мне?". Так і мы, дзівячыся жацьцядайнай Тройцы, пяём: Алілуя!

Ікас 8

Руку сваю сьвятую працягнуў Ты, Ісусе, Пятру, які тапіўся, і сказаў яму: "Малаверны, чаму ты ўсумніўся?". І калі Ты ўвайшоў у човен, вецер заціх. Тыя, што былі ў чоўне, падышоўшы, пакланіліся Табе, кажучы: "Сапраўды Ты Сын Божы". Мы ж, Уладару, клічам: працягні руку Тваю

сьвятую і выцягні нас з бездані грахоўнай; суцішы нашы бурныя думкі, каб нам славіць Цябе, пяючы:

Ісусе найсьвяцейшы, подзіў анёлаў!
Ісусе ўсясільны, прабацькоў збаўленьне!
Ісусе салодкі, патрыярхаў вялічаньне!
Ісусе шчодры, уладароў умацаваньне!
Ісусе любы, прарокаў прапаведаваньне!
Ісусе ўсяслаўны, апосталаў радасьць!
Ісусе ўсядобры, мучанікаў умацаваньне!
Ісусе ціхі, слодыч манахаў!
Ісусе спрадвечны, посьнікаў ўстрымлівасьць!
Ісусе чысты, дзявочнікаў моц!
Ісусе дзівосны, верных радасьць!
Ісусе міласэрны, усіх грэшных збаўленьне!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, зьмілуйся нада мною!

**Кандак 9**

Анёлы, арханёлы, пачаткі, сілы, гаспадарствы і ўлады, шасьцікрылыя шматвокія хэрувімы і сэрафімы безустанку імя Тваё, Ісусе, славяць на небе, клічучы: "Сьвяты, сьвяты, сьвяты Госпад Ісус Хрыстос на славу Бога Айца". Мы ж, грэшныя, на зямлі нячыстымі вуснамі ўсклікаем: Алілуя!

**Ікас 9**

Недастойныя малітвы прыносім Табе, Ісусе: прымі нас у пакаяньні, як прыняў каяньне мытніка і фарысэя; і як прыняў блудніцу, што памыла ногі Твае сьлязамі і выцерла валасамі сваімі. Каб выбавіцца ад грахоў нашых, пяём Табе:

Ісусе, цару цароў!
Ісусе, уладару ўладароў!
Ісусе, Госпадзе госпадаў!
Ісусе, судзьдзя жывых і мёртвых!
Ісусе, разьвей цемру душы!
Ісусе, прасьвятлі думкі сэрца майго!
Ісусе, ачысьці пажаданьні розуму!
Ісусе, уздымі мае вочы цялесныя!



Ісусе, што любіш усіх грэшнікаў!
Ісусе, што ўмацоўваеш усіх праведнікаў!
Ісусе, Збавіцелю ўсіх народаў!
Ісусе, усіх хрысьціянаў пацяшыцелю!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, глянь на мяне!

**Кандак 10**

Уладару спрадвечны, Ісусе, сапраўдны пацяшыцелю душ, ачысьці нас ад усяго благога, так як ты ачысьціў дзесяць пракажоных, што, стоячы здалёку, голасна клікалі: "Ісусе Настаўніча, зьмілуйся над намі". Убачыўшы іх, Ты, Збавіцелю, сказаў: "Ідзеце і пакажэцеся сьвятаром". І вось, ідучы, яны ачысьціліся і ўсклікнулі: Алілуя!

**Ікас 10**

Ты, Ісусе Збавіцелю, бачыўшы Закхэя на дрэве, сказаў яму:"Закхэю, злазь хутка, бо Мне трэба быць сёньня ў тваім доме". І сярэбралюбную душу мытніка аздаравіўшы, Ты, Уладару, сказаў усім, што сёньня прыйшло збаўленьне гэтаму дому. Таму і мы безупынку клічам: увайдзі ў дом сэрцаў нашых, учыні збаўленьне, выкарані любоў багацьцяў, каб нам славіць імя Тваё, кажучы:

Ісусе, скарб нятленны!
Ісусе, багацьце невычэрпнае!
Ісусе, што корміш усё стварэньне!
Ісусе, дай нам валадарства нябеснае!
Ісусе, заступніча ўдоваў!
Ісусе, абаронца сіротаў!
Ісусе, правадыру тых, што на моры!
Ісусе, кармільцу бедных!
Ісусе, уладару нябесны, дай мне плач за грахі!
Ісусе, уладару зямлі, дай мне сардэчнае каяньне!
Ісусе, уладару бездані, дай мне трываньне ў добрым.
Ісусе, уладару славы, пакажы мне Тваё аблічча!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, памажы мне сёньня!

**Кандак 11**

Ісусе, Збавіцелю наш, Слова Божае: словам неба і зямля былі створаныя, словам душа наша ажыўляецца, словам

Лазара чатырохдзённага ўваскрасіў Ты, Хрысьце, кажучы: "Хвалу аддаю Табе, Ойча, што Ты выслухаў мяне. Дый Я ведаў, што ты заўсёды выслухоўваеш Мяне. Але не дзеля Мяне гэта, а дзеля народу, што стаіць навокал, каб паверыў, што Ты Мяне паслаў". Сказаўшы гэта голасна ўсклікнуў: "Лазар, выйдзі вонкі". І памёрлы выйшаў. Таму і мы молімся Табе, выведзі нас ад сьмерці вечнае, каб нам пяяць: Алілуя!

**Ікас 11**

Да Цябе прыбягаем, Хрысьце Ісусе, што дзеля нас добраволна на крыжы пацярпеў і сьмерцю сваёю нашу сьмерць умярцьвіў, ўваскрасеньнем жыцьцё нятленнае нам дараваў, і ўзьнясеньнем шлях да неба паказаў. Дзеля гэтага пяём, славячы імя Твае:

Ісусе, Уладару магутны і несьмяротны!
Ісусе, Ты самы добры і самы міласэрны!
Ісусе, Госпадзе сьвяты і шчодры!
Ісусе, Ты самы сільны і самы слаўны!
Ісусе, я — твор рук Тваіх!
Ісусе, пачуй недастойную малітву маю!
Ісусе, працягні мне правую руку Тваю!
Ісусе, вазьмі да сябе грэшную душу маю!
Ісусе, прымі мяне, як Ты прыняў разбойніка на крыжы!
Ісусе, зьмілуйся нада мною, як Ты зьмілаваўся над яўным грэшнікам!
Ісусе, лекару душ і целаў, аздараві мяне сьмяротна хворага!
Ісусе, Збавіцелю мой, будзь мне памочнікам, калі буду пакідаць гэты сьвет!
Ісусе Вякікачалавекалюбча, прабач мне!

**Кандак 12**

Пачуй, Госпадзе, голас плачу майго, і стогн мой хай да Цябе дойдзе. Успомні, Збавіцелю, твор рук Тваіх і не загубі мяне дзеля беззаконьняў маіх. Уладару мой і Божа мой, пасьпяшы зьмілавацца нада мною, як Ты некалі зьмілаваўся над Пятром, калі той адрокся Цябе: я ж шмат разоў адракаўся Цябе нячыстымі ўчынкамі маімі; і як прыняў Ты Паўла, які прасьледаваў Цябе, так прымі і мяне недастойнага; і як паклікаў Ты Мацьвея ад мытніцы і ўчыніў яго евангелістам, так дазволь і мне ўславіць Імя Тваё сьвятое, Ісусе, і пяяць славу Тваю разам з імі тут у гэтым жыцьці, і пасьля сьмерці, і на ўсе вякі: Алілуя!

**Ікас 12**

Творча мой, Ісусе! Веру разам з Тамашом, што Ты Госпад мой і Бог мой. Веру, што сядзіш на нябёсах па правай руцэ Айца. Веру, што адтуль прыйдзеш судзіць жывых і мёртвых. Малюся Табе, Збавіцелю, зрабі мяне дастойным стаць разам з выбранымі Тваімі і чуць голас Твой, які кажа: "Прыйдзіце, блаславёныя, у дом Айца майго", каб мне пяяць славу імю Твайму, кажучы:

Ісусе, Уладару вечны!
Ісусе, бальсам салодкі!
Ісусе, кветка духмяная!
Ісусе, пэрла бясцэнная!
Ісусе, што абʼявіў нам сьвятло твару Твайго!
Ісусе, што паказаў нам шлях збаўленьня нашага!
Ісусе, што выбавіў нас ад усяго злога!
Ісусе, што выхапіў нас з агню вечнага!
Ісусе, сэрца майго вясельле!
Ісусе, цела майго здароўе!
Ісусе, душы маёй збаўленьне!
Ісусе, прывядзі мяне ў валадарства Тваё!
Ісусе Вялікачалавекалюбча, дай мне праслаўляць імя Тваё на вякі вякоў. Амін.

# Акафіст сьвятым апосталам Пятру і Паўлу

### Вершы перад акафістам



Вялікія настаўнікі ўсіх народаў, першапасадныя апосталы Пятро і Паўле, да вас пасьля Бога прыбягаем і просім: маліце Ўладара Хрыста дараваць сьвету супакой і душам нашым веліч зьмілаваньня.

Першы апостале Пятро, верны ключару Хрыстовы, пастыру пастыраў, прыклад пакаяньня для грэшнікаў, поўны любові Ісуса, камень Царквы Божай, мучаніча сільны, малі Хрыста Бога даць мне адпушчэньне грахоў.

Сьвятлом з неба пакліканы, увесь духоўны, увесь анельскі, у трэцім небе навучаны, першы вялікі настаўніча Хрыстовае веры сярод грэкаў, рымлянаў, варвараў і ўсіх народаў, апостале Паўле, маліся пільна за нас Госпаду, каб Ён збавіў душы нашы.

Слава Айцу, і Сыну, і Сьвятому Духу.

Усе дванаццаць апосталаў Хрыстовых, Пятро і Паўле, Андрэю і Якубе, Яне, Піліпе, Баўтрамею, Мацьвею, Тамашу, Якубе Альфееві, Сымоне, Юда, вы быццам дванаццаць вялікіх сьветачаў увесь сусьвет прасьвятляеце агнём ласкі Хрыстовае: маліце Яго дараваць нам веліч зьмілаваньня.

Цяпер, і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін.

Маліцеся за нас, семдзесят вучняў Ісусавых, што быццам семдзесят пальмаў фінікавых, даеце нам салодкі плод збаўеннай навукі: ваша малітва можа шмат у Хрыста, які паклікаў вас спасярод усіх народаў. Хай Ён увядзе нас у валадарства сваё, каб нам быць разам з вамі.



## Акафіст

### Кандак 1 (Пятра)

"Я пастыр добры — кажа Госпад Ісус, — душу маю кладу за авечак маіх. Калі любіш мяне, Пятро, больш чым яны, пасі авечак Маіх, пасі ягнят Маіх". Падвойны запавет любові прыняў ты, апостале Пятро, ад Начальніка пастыраў, усьлед за якім ты пайшоў, не збаяўшыся мукаў, якія ты пацярпеў за Яго, клічучы: Алілуя!

### Ікас 1

"Шчасьлівы Ты, Сымоне, сыне Ёны" — чулі мы, як Хрыстос сказаў табе, усяслаўны апостале Пятро; мы ж, маючы двух такіх пастыраў, як зможам дастойна ўславіць таго, каго Бог уславіў; тым ня менш, заахвочаныя любоўю і верою, клічам:

Радуйся, апостале Пятро, вечная аснова Царквы Хрыстовае;
Радуйся, моцны і непахісны стоўп веры Ісусавай;
Радуйся, старшыня збору апостальскага;
Радуйся, ласкавы варатару валадарства нябеснага;
Радуйся ты, што пакінуў марнасьць сьвету і стаўся руплівым духоўнага жыцьця;
Радуйся, міласэрны лекару тых, што шчыра каюцца;
Радуйся ты, што, пакінуўшы тленныя сеці, нятленнымі сьвет улавіў;
Радуйся ты, што моліш Бога за нашыя незьлічоныя правіны.
Радуйся, боская пара першапасадных апосталаў, Пятро і Паўле;
Радуйся, духоўная калясьніца, што дбае аб нашым збаўленьні.
Радуйцеся, дванаццаць апосталаў і багавідцаў, пасланыя на сьвет для прасьвятленьня;
Радуйцеся, знамянітыя дванаццаць патрыярхаў, дадзеныя людзям верным на ўмацаваньне;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы, устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

Кандак 2 (Паўла)

Моцна зьдзівіўся ты, пачуўшы з вышыні голас Ісуса , які казаў: "Чаму, Саўле, занядужаўшы няверствам, прасьледуеш Мяне? Але ад гэтага часу вер, бо асьлепне дзёрзкасьць супраціўніка: Я выбраў цябе быць прапаведнікам Маім перад уладарамі і народамі, і сынамі Ізраільскімі". Пачуўшы гэта, ты, Богам пакліканы апостале Паўле, усклікнуў: Алілуя!.

Ікас 2

Ты чуў голас з неба, але ня мог бачыць Таго, хто гаварыў; за прасьледаваньне Недасяжнага і руплівасьць законную ты прыняў сьлепату цялесную; ведзены за руку, ты дасягнуў боскага хрышчэньня, атрымаўшы якое, зноў пачаў бачыць. Дзеля гэтага мы пяём табе:

Радуйся, Богам пакліканы апостале, пасланы
навучаць усе народы;
Радуйся, слаўны прапаведніча веры Божай па ўсім
сьвеце;
Радуйся, навочны сьведка сьвятла Боскага, што
ацяніла цябе па дарозе ў Дамаск;
Радуйся, вялікі настаўніча тайны Сьвятое і
Жыцьцядайнае Тройцы;
Радуйся, вядомы выкрывальніча тых, што ня вераць у
Сына Божага;
Радуйся, прамяністы сусьветны сьветач дабрадзейнага жыцьця;
Радуйся ты, што прасьвятліў многія краіны сваімі
пісаньнямі;
Радуйся ты, што абяцаў валадарства нябеснае душам
тых, што пакаюцца.
Радуйцеся, Пятро і Паўле, што, быццам дзьве ракі, з
жыцьцядайнай крыніцы - Хрыста плывеце.
Радуйцеся, вы, што поіце нас, сасмаглых ад агню
грахоўнага.
Радуйцеся, дванаццаць апосталаў, пасланыя на
выкрываньне грахоў;
Радуйцеся, дванаццаць вятроў, што разьвяваеце
ідалаў паганскіх.



Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

Кандак 3 (Пятра)

Ты, апостале, сумеўся, угледзеўшы абрус, поўны ўсякіх жывёлаў чыстых і нячыстых, што спускаўся згары. І загадана табе было тройчы, забіўшы іх, есьці. Гэта быў знак чалавекалюбства Божага, каб не адкідаць ніводнага народу, што жадае верыць у Хрыста Ісуса. Ты ж, зразумеўшы гэтую тайну, усклікнуў: Алілуя.

Ікас 3

"Ад нараджэньня ніколі не каштаваў я нячыстай стравы",— сказаў ты, блаславёны апостале Пятро; але Боскі провід хутка табе стаўся ясным, калі ты пачуў: "Што Бог ачысьціў, ты не лічы нячыстым". Гэта быў табе знак, што не праведных, а грэшных прыйшоў Хрыстос клікаць да пакаяньня. Дык і мы клічам:

Радуйся, Пятро апостале, што міласьціва адчыняеш
нам уваход у валадарства;
Радуйся, хуткі памочніча ўсіх хрысьціянаў у патрэбе;
Радуйся, што не глядзіш на мноства грахоў, але малое
пакаяньне прымаеш;
Радуйся, магутны заступніча, што аздараўляеш
немачных, якія прыбягаюць да цябе;
Радуйся, што малітваю тваёю ўваскрасіў многіх
памёрлых;
Радуйся, адважны змагару, што словам быццам
стралою няверных раніш;
Радуйся ты, чый цень, дзеля вялікай веры тваёй у
Хрыста, нядужых аздараўляў;
Радуйся ты, што Нэрона цара і Сымона ведзьмара
быццам льва і гадзюку перамог;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, што быццам два хэрувімы,
ківот Хрыстовы сьцеражэце;
Радуйцеся, што крыламі вашымі малітаўніцу і сьвятое
сьвятых ацяняеце;
Радуйцеся, багалюбныя дванаццаць апосталаў,
пасланыя на аб'яўленьне цудаў Хрыстовых;

Радуйцеся, дванаццаць дарагіх каменяў на грудзях
Ааронавых;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

Кандак 4 (Паўла)

Ты зьдзівіў жыхароў Дамаску, пачаўшы прапаведаваць ім веру ў Хрыста Ісуса, Богам пакліканы апостале Паўле. Бо яны казалі: "Ён раней прасьледаваў тых, што верылі ў імя Хрыстова, і прыйшоў сюды, каб, зьвязаўшы іх, аддаць на мукі. Дык як жа ж ён так раптам зьмяніўся? Ён годны сьмерці". Ты ж, бласлаўёны, бачачы іхнюю бессардэчнасьць і асьляпленьне духоўнае, адышоў адтуль, спусьціўшыся па сьцяне ў кашолцы, і ўсклікнуў: Алілуя.

Ікас 4

Поўны руплівасьці, ты пачаў прапаведаваць ня толькі гэбраям, але і ўсім народам, каб ухіляліся ад служэньня Старому Закону і ад абрэзаньня, а сьпяшаліся да Боскага хрышчэньня. Ты стаўся для ўсіх выдатным настаўнікам і дзеля гэтага клічам:

Радуйся, Паўле апостале, Богам пасланы на
абвяшчэньне грэшнікам пакаяньня.
Радуйся, мілагучная труба, што абвясьціла сьвету
збавенную навуку;
Радуйся, прапаведніча дабрадзейнасьці і дрэнных
нораваў выкрывальніча.
Радуйся, міласэрны прыймальніча ўсіх, што да веры
Хрыстовай прыходзяць;
Радуйся, выбраны посудзе, поўны багацьця духоўных
вучэньняў;
Радуйся, карабель, што вязе груз пакаяньня;
Радуйся, бескарысьлівы лекару нядужых і хуткі
пацяшыцелю сумных;
Радуйся, што паказваеш праўдзівы шлях для тых, што
зблудзілі, і мудра навучаеш няўмекаў.
Радуйцеся, Пятро і Паўле, дзьве кветкі поўныя
духмянасьці, што ніколі ня вянуць;
Радуйцеся вы, што аздараўляеце духмянасьцю вашаю
ўсякае беззаконьне;



Радуйцеся, Богам пакліканыя дванаццаць апосталаў,
пасланыя прапаведаваць валадарства Божае;
Радуйцеся, дванаццаць знакаў нябесных, што
асьвятлілі ўсякі блуд на зямлі;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

Кандак 5 (Пятра)

Ты, дастойны апостале Пятро, быў пакліканы ад лоўлі рыб і клопатаў зямных, як пракарміць дзетак сваіх. Уверыўшы, ты пайшоў усьлед за Хрыстом, які накарміў пяцьцю хлябамі столькі ж тысяч народу, і яшчэ засталося дванаццаць кашоў астаткаў. Несучы разам з іншымі апосталамі гэтыя астаткі і абліваючыся потам, у зьдзіўленьні ты ўсклікнуў: Алілуя.

Ікас 5

Ты быў схоплены архіерэямі і старшынямі гэбрайскімі, пабіты і ўкінуты ў вязьніцу разам з Хрысталюбым Янам; табе забаранілі ўспамінаць імя Ісуса і навучаць верыць у Яго. Ты ж, бласлаўёны Пятро апостале, узброіўшыся ў непахісную веру, перад іхнім зборышчам, быццам каменем з прашчы, прароцкімі словамі абвясьціў Госпада Ісуса; і адышоў ад іх, з радасьцю пацярпеўшы за Ісуса раны і насьмешкі. Дзеля гэтага і мы радасна пяём табе:

Радуйся, Пятро апостале, што хлусьлівыя навукі
фарысэяў і садукеяў, быццам павуціну разадраў;
Радуйся ты, што даеш кульгавым аздараўленьне і
сьляпым зрок Божаю сілаю;
Радуйся ты, што пасьля Хрыста быў вялікім
цудатворцам;
Радуйся ты, першапасадны вестуне перад магутнымі
гэтага сьвету;
Радуйся, рыбаку добры, што ўлавіў сваімі сецямі ўвесь
сусьвет;
Радуйся, хуткі памочніча сьвятымі тваімі малітвамі
для тых, што тонуць у пажаданьнях гэтага сьвету;
Радуйся, добры посудзе і чыстае селішча Духа
Сьвятога;

Радуйся, нябесная раса, што дае ўсім, што прыходзяць
да цябе, прахалоду ад грахоўнага агню;
Радуйцеся, два люстры, Пятро і Паўле, што паказваеце
нам нябеснае жыльлё;
Радуйцеся, дзьве студні чыстыя, што абмываеце
ўсякае беззаконьне;
Радуйцеся, выбраныя дванаццаць, пасланыя на
абвяшчэньне ўсяму сьвету мук Хрыстовых;
Радуйцеся, дванаццаць залатых трубаў, што
прагалошваеце запаветы Ісусавы;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

**Кандак 6 (Паўла)**

Ты, Паўле апостале, годны хвалы, назваў сябе фарысэем з калена Бэніямінавага і шчыра прызнаўся да сваіх ранейшых благіх намераў супроць тых, што ўверылі ў Хрыста. Мы бачылі, як ты прасьледаваў Царкву Божую і разбураў яе, а цяпер яе ўмацоўваеш. І яна, узмоцненая тваімі салодкімі як мёд вучэньнямі, кліча да Бога: Алілуя.

**Ікас 6**

"Хто нас разлучыць з любоўю Божай: сум, цяжкасьці ці прасьлед?" Ты сказаў гэта і многае іншае, богагалосны прапаведніча, сусьветны апостале Паўле; заклікаючы горача ўсіх, што уверылі ў Хрыста, да Ягонай любові, ты сам дабравольна пацярпеў цяжкасьці дзеля Бога. Таму мы пяём табе радасным голасам:

Радуйся, дасканалы рупліўча, што зваўся ў Законе
Саўлам;
Радуйся, вялікі пакутніча, што ў імя Хрыста Паўлам
сябе назваў;
Радуйся, ясны сьветач для ўсіх, што сядзяць у цемры
няведаньня;
Радуйся, вялікае правіла для тых, што тонуць у
бездані беззаконьняў;
Радуйся ты, што быў радасным вестуном для тых, што
ўверылі ў Ісуса Хрыста;
Радуйся ты, што падаеш руку дапамогі тым, што
гінуць у грахох;



Радуйся, дасьведчаны лекару душэўных і цялесных
недамаганьняў;
Радуйся, умелы пацяшыцелю тых, што ў суме і патрэбе;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, першапасадныя апосталы,
што сееце слова Ісусава;
Радуйцеся, два сталы, што падаеце нам хлеб жыцьця —
цела Хрыстова;
Радуйцеся, дванаццаць апосталаў, Богам пасланыя
абвяшчаць сьвету збаўленьне;
Радуйцеся, дванаццаць караблёў вялікіх, што
прывозіце Хрыстовую дабравесьць;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

**Кандак 7 (Пятра)**

Прыйшоўшы ў горад Лідду, ты ўсіх там задзівіў, аздаравіўшы імем Ісуса хворага, што восем гадоў ляжаў на пасьцелі сваёй; у Ёпіі ж ты, блаславёны апостале Пятро, прыхіліўся да просьбаў і памёрлую Тавіту малітваю да жыцьця вярнуў. Паклікааны ў Кесарыю, ты Карніла і ўсіх хатніх яго боскім хрышчэньнем прасьвятліў, так што ўсе разам ускліснулі: Алілуя.

**Ікас 7**

Выкрыўшы сярэбралюбны нораў ненасытнага Сымона чараўніка, які хацеў купіць ласку Духа Сьвятога за нячыстае золата, сабранае чарамі, ты, Пятро апостале, аддаў яго на загубу разам з серабром ягоным. Мы ж, выбавіўшыся ад такога няшчасьця, клічам:

Радуйся, Пятро, любы апостале Ісуса, дзеля якога ты
пакінуў прынады сьвету;
Радуйся, намесьніча Божы, што дзеля Яго палюбіў
духоўнае;
Радуйся, посудзе пазалочаны, поўны вялікіх тайнаў
Хрыстовых;
Радуйся, лекару, што нерукатворнымі лекамі
аздараўляеш нас грэшных;
Радуйся ты, што выкрыў сярэбралюбны нораў Ананьні
і аддаў яго наглай сьмерці;

Радуйся ты, што Сапфору, жонку яго і саўдзельніцу ў
нядобрай справе, на такі самы лёс асудзіў;
Радуйся ты, што ў царкоўным служэньні грэх
сярэбралюбства адрэзаў;
Радуйся ты, што да сьціплага жыцьця дзеля Хрыста
ўсіх заахвочваў;
Радуйцеся, любыя апосталы, Пятро і Паўле,
прапаведнікі веры Божае;
Радуйцеся, дзьве салодкія крыніцы, што пояць душы
грэшныя;
Радуйцеся, Богам умацаваныя дванаццаць апосталаў,
пасланыя абвяшчаць уваскрасеньне Хрыстова;
Радуйцеся, дванаццаць вояў, што перамаглі бязьлікае
зборышча люцыпарава;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

**Кандак 8 (Паўла)**

Дасягнуўшы трэцяга неба дзякуючы праваце розуму і цялеснай чысьціні і будучы ўзбагачаным невыказнымі дараваньнямі, ты, блаславёны апостале Паўле, зышоўшы адтуль, узбагаціў нас, зьбяднелых, навучыўшы богаразуменьню. Дзеля гэтага мы, верныя Хрыстовыя, разам клічам: Алілуя.

**Ікас 8**

Мноства ран ад біцьця палкаю і ад частага каменяваньня цела тваё з радасьцю перацярпела дзеля салодкага Ісуса, Богам пакліканы апостале Паўле; дый тых, што ўверылі ў Хрыста, ты навучаў дабравольна пераносіць усякія цяжкасьці дзеля Яго. Таму клічам цябе:

Радуйся, Паўле апостале, што перанёс раны на целе
сваім з радасьцю дзеля Госпада;
Радуйся, дыяманце, сільны духам і розумам, што
застаўся непахісным перад сынамі Ізраільскімі,
перад уладарамі і ўсімі народамі;
Радуйся ты, што перад мудрацамі і настаўнікамі
закону паказаўся непераможным настаўнікам;
Радуйся, Богам любімы апостале Паўле, разумнае
сонца прасьвятленьне;



Радуйся ты, што вучэньнямі тваімі быццам праменямі
уздымаеш тых, што ў цемры няведаньня;
Радуйся ты, што сам многія душакарысныя лісты да
народаў і гэбраяў напісаў;
Радуйся ты, што многіх паганаў да праўдзівай веры ў
Хрыста Ісуса навярнуў;
Радуйцеся, апосталы Пятро і Паўле, што ўсім народам
Слова Божае прапаведуеце;
Радуйцеся, што, быццам дзьве вясёлкі, аб'яўляеце
супакой і цішыню пасьля дажджу гневу Божага;
Радуйцеся, Богам упрыгожаныя дванаццаць апосталаў, пасланыя на прапаведаваньне хрышчэньня для
адпушчэньня грахоў;
Радуйцеся, дванаццаць жэзлаў, што скрышылі ўсякую
сілу бесаўскую;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

**Кандак 9 (Пятра)**

Абняты адзіным клопатам аб душах і сэрцах тых, што прыбягаюць да веры Хрыстовай, ты, блаславёны апостале Пятро, паставіў дабрадзейнага Сьцяпана і шэсьць іншых дыяканаў, каб рупіліся аб іншых патрэбах, а сам аддаўся малітве і навучаньню слова верных, якія адзінадушна клікалі: Алілуя.

**Ікас 9**

Натхнёны руплівасьцю Хрыстовую і загарэўшыся гневам, ты адсек Малхава вуха, як непрыгоднае да слуханьня прароцкіх сказаньняў аб Хрысьце; але Настаўнік твой, блаславёны апостале Пятро, забараніў табе, і ты пачуў ад Ісуса, што кожны, хто падымае меч на бліжняга, ад мяча памрэ і што нягожа мужу духоўнаму збройна супраціўляцца, але трэба дабравольна пераносіць нягоды, што ты пасьля і ўчыніў. Дзеля гэтага пяём табе:

Радуйся, слаўны апостале Пятро, любы вучню
Настаўніка твайго;
Радуйся ты, каму было загадана крыўдзіцелю ня сем,
а семдзесят сем разоў адпушчаць;

Радуйся ты, што абяцаўся ісьці ў вязьніцу і на сьмерць
разам з Настаўнікам тваім;
Радуйся ты, што, калі гэбраі ў садзе хацелі ўзяць Ісуса,
ты збройна бараніў Яго;
Радуйся ты, што з любоўю пайшоў усьлед за Хрыстом
да дому Каяфы, што быў тады архіерэем;
Радуйся ты, якому Хрыстос прадказаў, што адра-
чэшся тройчы Яго, пакуль певень запяе;
Радуйся, ты, што, холадам мучаны, тройчы з клятваю
адрокся Настаўніка твайго;
Радуйся, ты, што хутка пасьля гэтага, сагрэты Божай
ласкаю, пакаяўся і горка заплакаў;
Радуйцеся, усесьвятыя апосталы Пятро і Паўле, што,
быццам два вокі Гасподнія, увесь сусьвет назіраеце;
Радуйцеся, два дарагія камені, што на плячы
Ааронавым зьзяюць;
Радуйцеся, Богам праслаўленыя дванаццаць
апосталаў, пасланыя хрысьціць сьвет на адпушчэньне
грахоў;
Радуйцеся, вы, што хрысьцілі ў імя Айца, і Сына, і
Сьвятога Духа вадою і духам;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

**Кандак 10 (Паўла)**

Ты, Богам пакліканы апостале Паўле, даў вялікае сьведчаньне з прароцкіх кнігаў аб Ісусе перад начальнікамі і судзьдзёю Фэстам, і перад царом Агрыпаю. Праз аднаго з іх ты быў брыдка абмоўлены, быццам ад вялікіх кніжных ведаў ты розум страціў; а ад другога пачуў няшчыры адказ, што ён ня сьмее верыць у Хрыста Ісуса і недастойны ўсклікнуць з вернымі: Алілуя.

**Ікас 10**

Тройцу адзінасутную прапаведаваў ты, выбраны посудзе тайнаў Божых, апостале Паўле, перад усімі народамі, судзьдзямі і ўладарамі, і абяцаў збаўленьне ўсім, што захочуць верыць. Дзеля гэтага клічам:



Радуйся, разважны прапаведніча веры Хрыстовай;
Радуйся ты, што не збаяўся падкопаў гэбрайскіх, калі
цябе без віны хацелі забіць;
Радуйся, што перад Фэстам паказаў беспадстаўнасьць
даносаў ад асьлеплых бязьверствам;
Радуйся, што адклікаўся да суду цэсара, будучы
рымскім грамадзянінам;
Радуйся ты, што цару Агрыпе нябеснае відзеньне ясна
перад усімі расказаў;
Радуйся ты, што ягонуую крывадушнасьць у гатовасьці
верыць у Хрыста выявіў;
Радуйся, нястомны праваднікy, які вядзеш да пака-
яньня тых, што кульгаюць ад цяжару грахоўнага;
Радуйся, разумны будаўніку веры Ісусавай сярод тых,
што жывуць у далёкіх краінах;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два голубы высакалётныя,
што крыламі сваімі ўзьляцелі вышэй за неба;
Радуйцеся, два правілы, што кіруюць нерукатворнай
Царквой Хрыстовай;
Радуйцеся, багалюбныя дванаццаць апосталаў, пасла-
ныя абвяшчаць усяму сьвету ўваскрасеньне Хрыстова;
Радуйцеся, дванаццаць вінаграднікаў, што праліва-
еце віно, якое прыносіць грэшным пацяшэньне;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы,
устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету

**Кандак 11 (Пятра)**

Ірад азьвярыўся на сьвятых апосталаў Госпада нашага Ісуса Хрыста і, жадаючы дагадзіць багаборцам, забіў Якуба, брата Яна Забэдзеевіча. Ён узьняў таксама рукі на цябе, пахвалы годны апостале Пятро і, схапіўшы, загадаў трымаць закаванага ў вязьніцы пад строгаю вартаю, пакуль міне пасха гэбрайская, каб цябе тады ўмярцвіць. Але яшчэ не настаў час і месца мукаў тваіх. Таму вось анёл прыйшоў да цябе і загадаў рыхтавацца ў дарогу; і, правёўшы цябе праз моцныя замкі, зьнікнуў; ты ж, пазнаўшы, што збаўленьне прыйшло ад Бога, ўсклікнуў: Алілуя.

Ікас 11

Ідучы ўсьлед за тваім настаўнікам Хрыстом, ты, сьвяты апостале Пятро, прыйшоў на гару Табар і там бачыў, як Хрыстос перамяніўся і як твар Ягоны слаўны зазьзяў нязвыкла; упаўшы ў страху разам з сынамі Забэдзеевымі на зямлю, ты чуў голас з неба, які казаў: "Гэта Сын Мой любы, будзьце Яму паслушныя ва ўсім". Мы ж клічам :

Радуйся, Пятро апостале, дастойны і верны абвясьціцелю перамяненьня Хрыстовага;
Радуйся, бо ты сапраўды чуў Боскі голас і сьвядоцтва Айца згары;
Радуйся ты, які паказаў прыязьнь прарокам Майсею і Гальяшу, што там зьявіліся;
Радуйся, ты, што ў свайго Настаўніка тры палаткі зрабіць дазволу прасіў;
Радуйся ты, што, прыйшоўшы ў Рым, блазна чараўніка аддаў на гібельны канец;
Радуйся ты, што там вялікія мукі перанёс і на крыжы ўніз галавою царскі вянец атрымаў;
Радуйся, Рыму вялікая пахвала, пасьвяціўшы яго крывёю сьвятою сваёю;
Радуйся, Рыму слаўнага галава, што пакінуў там па сабе пастыра статку Хрыстовага;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два браты-блізьнюкі, ад аднае маткі Царквы Хрыстовае народжаныя;
Радуйцеся, верныя любіцелі, што ў адзін час дзеля Хрыста пацярпелі;
Радуйцеся, дванаццаць Богам праслаўленых апосталаў, пасланыя прапаведаваць Хрыстовы на неба ўзыход;
Радуйцеся, дванаццаць вежаў, што горад Божы, сусьвет, з усіх бакоў умацоўваеце;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы, устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

Кандак 12 (Паўла)

Славім цябе, усеблаславёны Паўле апостале, як роўнадастойнага з хэрувімамі, бо ты быў узьняты да трэцяга неба і там быў абдараваны невыказнымі Божымі багацьцямі, з якімі абышоў увесь сьвет, навучаючы верыць у расьпятага Хрыста Сына Божага і пець: Алілуя.



Ікас 12

Богам выбраны пачэсны посудзе і чыстае селішча Духа Сьвятога, мудры апостале Паўле: ты быў пакліканы Хрыстом і пасланы Ім прапаведаваць Ягонае ўцелаўленьне, а тым, што паверылі — збаўленьне. Навярнуўшы да Яго многа народаў, ты прыйшоў у Рым і там дзеля Імя Ягонага пацярпець захацеў. Таму мы клічам:

Радуйся, Паўле апостале, салодкі прапаведніча веры Хрыстовае;
Радуйся ты, што падняўся падвіжніцкай працы, абыходзячы ўвесь сьвет са словамі Ісусавымі;
Радуйся, мучаніча вялікі, што перанёс дзеля Бога шматлікія цярпеньні.
Радуйся, чысты дзявочніча, што захаваў добрыя норавы душы і цела;
Радуйся, вялікі любіцелю імя Ісусавага, перад якім схіляюцца ўсе калені;
Радуйся, бо яно ў тваіх пісаньнях пяцьсот разоў успамінаецца;
Радуйся ты, што Нэрона цара рымскага пасароміў і жонку яго да веры хрысьціянскае навярнуў;
Радуйся ты, што ва ўсяхвальным Рыме разам з намесьнікам Ісусавым прыняў мучэньне;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, пахвала хрысьціянаў і вялікае пацяшэньне сумных;
Радуйцеся, два крылы, што пераносяць нас ад гэтага беднага жыцьця да валадарства нябеснага;
Радуйцеся, дванаццаць апосталаў, сужыхары Божыя, пасланыя абвяшчаць тайны судоў Хрыстовых;
Радуйцеся, бо вы сядзеце на дванаццацёх пасадах судзіць дванаццаць каленаў Ізраілевых;
Радуйцеся, Пятро і Паўле, два вялікія сьветачы, устаноўленыя Хрыстом для ўсяго сьвету.

## Малітвы Скарыны

"Малая падарожная кніжка" Францішка Скарыны, выданая ім у Вільні ў 1522 г., была першым у Беларусі (і ня толькі ў Беларусі) друкаваным малітаўнікам для сьвецкіх людзей. Невялікага разьмеру, кніжка, як сама назва паказвае, павінна была быць, на ўзор заходніх Vademecum, сталым спадарожнікам набожнага чалавека. Зьмест трох з пяці частак кнігі традыцыйны — псалтыр; часасловец, які зьмяшчае нязьменныя тэксты дзённых царкоўных службаў бізантыйскага абраду; і шасьцідневец, або выбраныя зьменныя часткі гэтых службаў на кожны дзень тыдня. Апошняя частка — гэта царкоўны каляндар на ўвесь год і "паскалія", у якой пададзеныя даты сьвятаў Вялікоднага кругу. Гэтая частка мае ў сабе таксама нямала цікавых астранамічных вестак.[1]

Частка, якая нас тут цікавіць, носіць назву "Пачынаюцца Акафісты на ўсе дні тыдня". У ёй зьмешчана восем акафістаў і злучаных з імі канонаў, па адным на кожны дзень тыдня і два ў чацьвер: Акафіст Магіле Гасподняй у нядзелю, Анёлам у панядзелак, Яну Хрысьціцелю ў аўторак, Багародзіцы ў сераду, Апосталам і сьвятому Міколу ў чацьвер, Крыжу ў пятніцу і Імю Ісусаваму ў суботу і ва ўсе іншыя дні. За выняткам Акафісту Багародзіцы, усе іншыя былі надрукаваныя ўпершыню. Такім чынам "Малую падарожную кніжку" можна назваць першым друкаваным "акафістнікам".

Каноны належаць да гімнаграфічнай спадчыны Царквы бізантыйскага абраду. Пачынаючы з VIII стагодзьдзя яны становяць складовую частку ранішняй і некаторых іншых царкоўных службаў. Каноны ў "Малой падарожнай кніжцы" зьяўляюцца перакладамі з грэцкай мовы. Іхнія аўтары, Ян Дамаскін, Язэп Песнапевец і Тэактыст — вядомыя грэцкія царкоўныя пісьменьнікі VIII і IX стагодзьдзяў. Скарына не дае толькі імя аўтара канону Магіле Гасподняй.

Акафісты належаць да жанру г. зв. кандакоў, якія былі вядомыя ў Бізантыі перад паяўленьнем канонаў. Гэта былі песьні, якія складаліся з 24 або больш строфаў, зьвязаных акравершам. Звычайна акравершам быў грэцкі альфабэт, але ім магло быць імя аўтара або нейкая пабожная фраза. Слова "акафіст" паходзіць ад грэцкага 'Ακάθιστος 'ύμνος, што можна перакласьці як "несядальны гімн", г. зн. гімн, які трэба сьпяваць стоячы. Для грэкаў існуе толькі адзін акафіст у гонар Божае Маці, напісаны праўдападобна ў сёмым стагодзьдзі ў Канстантынопалі. Ён складаецца з 24 строфаў, злучаных альфабэтычным акравершам. Характэрнай рысай Акафіста зьяўляецца тое, што кожная другая песьня мае кароткую літанію з трынаццаці пахвалаў у гонар Багародзіцы. Кожны радок пачынаецца словам "Радуйся". Апошні радок заўсёды той самы: "Радуйся Дзева Маці". Строфы без літаніяў заўсёды канчаюцца воклічам "Алілуя".[2]

З часам пачалі паяўляцца іншыя творы напісаныя на ўзор "Акафіста", напр. Пахвала крыжу, або сьвятым.

Сапраўднага росквіту пісаньне акафістаў атрымала сярод славянаў пасьля таго, як Акафіст Багародзіцы быў перакладзены на



царкоўнаславянскую мову. У славянскай тэрміналёгіі строфы без літаніяў атрымалі назву "кандакоў", а з літаніямі — "ікасаў".

Акафісты славянскага паходжаньня звычайна ня маюць акравершаў. Выняткамі зьўляюцца тры акафісты ў "Малой падарожнай кніжцы". Два з іх, акафісты ў гонар Яна Хрысьціцеля і Імя Ісусавага, маюць акраверш ПИСАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС і ДЕЛАЛ ДОКТОР СКОРИНІЧ ФРАНЦИСКУС. Такім чынам няма ніякага сумніву, хто быў аўтарам гэтых твораў[3]. Цікава тое, што ў абодвух выпадках акравершам абняты таксама пачатковыя, або ўводныя, вершы, якія не зьяўляюцца складовай часткай акафісту.

Адной з характэрных рысаў акафіста імю Ісусаваму зьяўляецца тое, што літаніі ў ікасах канчаюцца па-рознаму, а не аднолькава, як у іншых акафістах. Увесь твор можна ўмоўна падзяліць на дзьве часткі. У першай частцы пераважае тэма аздараўленьняў, учыненых Ісусам. Магчыма на выбар яе паўплывала тое, што аўтарам акафісту быў "у лекарскіх навуках доктар". Адно адхіленьне (кандак і ікас 5) можна выясьніць патрэбаю захаваць акраверш. У аснову другой часткі пакладзеныя евангельскія здарэньні, у якіх Боскасьць Ісуса і Ягоная міласэрнасьць праявіліся ў асабліва яркі спосаб: хаджэньне па вадзе, адказ Піліпу на ягоную просьбу паказаць Айца, вызнаньне Тамаша і г.д.

Набожнасьць да Імя Ісусавага на хрысьціянскім Усходзе мае глыбокія карані. З другога боку яна была распаўсюджаная і на Захадзе, дзе яе найбольшымі пашыральнікамі былі францішкане бэрнардыны, якія ў канцы XV стагодзьдзя мелі свой манастыр у Полацку. Паўстае пытаньне, пад чыім уплывам беларускі першадрукар, хроснае імя якога было Францішак, напісаў акафіст у гонар імя Ісусавага. Сёньня канчальнага адказу на гэтае пытаньне нельга даць, і яно патрабуе далейшых пошукаў.

"Акафіст Імю Ісусаваму" ніколі не перавыдаваўся, хоць ён сустракаецца ў рукапісных сьпісках. Затое ў пазьнейшых малітаўніках аж да сёньняшняга дня знаходзіцца г. зв. "Акафіст Салодкаму Ісусу", які сваім характарам і зьместам шмат у чым напамінае Скарынаўскі. Беручы пад увагу храналягічны фактар, можна меркаваць, што "Акафіст Салодкаму Ісусу" зьяўляецца пераробкай "Акафісту Імю Ісусаваму", магчыма каб пазбавіцца акравершу, а з ім "лацінскага " імя "Францішкус".

Набожнасьць да імя Ісусавага адчуваецца і ў акафісьце Апосталам Пятру і Паўлу, трэцім акафісьце з акравершам. Вось што там гаворыцца пра сьвятога Паўла:

"Радуйся, вялікі любіцелю імя Ісусавага, перад якім
схіляюцца ўсе калені;
Радуйся, бо яно ў тваіх пісаньнях пяцьсот разоў
успамінаецца".

Акафіст Апосталам быў выдадзены другі раз у 1628 г. Віленскім праваслаўным Брацтвам[4]. Ягонае аўтарства ў гэтым выданьні прыпісваецца патрыярху Канстантынопальскаму Ізыдару Бухірасу, які жыў у першай палове XIV стаг., што даволі неверагодна з увагі на славянскі альфабэтычны акраверш. Прыпісваньне аўтарства царкоў-

наму дастойніку мела хутчэй прэстыжнае значэньне і як пацьверджаньне "праваслаўнасьці" твору. Што гэта было патрэбнае ў пэрыяд вострай рэлігійнай палемікі, можна пераканацца, параўнаўшы тэксты двух выданьняў. Вось некалькі прыкладаў, дзе больш значныя адрозьненьні ў Скарынаўскім тэксьце пададзеныя тоўстым друкам:

| Скарына 1522 | Акафісты 1628 г. |
|---|---|
| Ікас 7 (Пятра) | |
| Радуйся, Ісусом любимый апостоле Петре, его же ради мирская опустивый; радуйся, Божий намесниче і того для духовныя возлюбивый. | Радуйся, Богом избранный апостоле Петре, его же ради земных обоживый; Радуйся, его же ради обогативый духовною благодатию. |
| Ікас 11 (Пятра) | |
| Радуйся, Риму великаго похвало, кровию светою своею и (г.зн. яго - *А.Н.*) посветивый; **радуйся, Риму славнаго главо, пастыря стада Христова по собе в нем оставивый.** | Радуйся, Риму великая похвало, в нем же течению край навершив, ко небеси стопы простер. |
| Ікас 12 (Паўла) | |
| Радуйся, ты Нерона царя римскаго посрамил и жену его на веру Христову навратил, радуйся ты, во прехвальном Риме вкупе с намесником Ісусовым мучение принял. | Радуйся, иже венценоснаго Нерона никакоже не усумнеся, но и виночерпца того верна во Христа Ісуса сотвори. Радуйся, иже крайним удивлением неверныя воины во веру привлекл, в сечении бо твоем кров и млеко множайше источил еси. |

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, у выданьні 1628 г. выкінена або зьменена — не заўсёды вельмі ўдала, — усё, што напамінае пра першынство сьв. Пятра і яго наступнікаў. Пытаньне аўтарства застаецца нявырашаным, хоць ня выключана, што Скарына калі ня быў аўтарам, то прынамсі творча адрэдагаваў тэкст у "Малой падарожнай кніжцы", уносячы ў яго свае зьмены і дадаткі. Ускоснае пацьверджаньне дае моўны аналіз тэксту, дзе Скарына ўжывае беларускія формы, называючы напр. сыноў Забэдэя "Забэдэявічамі".

Творчы падыход Скарыны да твораў іншых аўтараў відавочны ў малітвах пасьля акафістаў і канонаў. Усяго іх у "Малой падарожнай кніжцы" пятнаццаць. Арыгінальныя тэксты трох з іх належаць сьвятому Кірылу Тураўскаму. Гэта "Малітва ў Тройцы адзінаму



Богу", "Малітва да сьвятых Анёлаў" і "Малітва да сьвятых Апосталаў". Вось пачатак "Малітвы да сьвятых Анёлаў":

| Кірыла Тураўскі[13] | Скарына |
|---|---|
| К вам, яко заступником и хранителем живота моего, аз окаянный и многогрешный (имя рек) припадаю, моляся и прося вашей милости, видци Божіа величества, святіи ангели, престол честныи Пресвятыя Троица страшно обьстояще и не изреченною светлостью Божественныя славы облистаеми. | К вам яко к заступником и хранителем живота нашего, аз окаанный и многогрешны имя рек припадаю моляся просяй вашей милости, видци Божия величества святии ангели, престол чесный живоначальныя Троице страшно оступающе, неизреченною светлостию Божественныя славы облистаеми. |

А вось яшчэ прыклад з "Малітвы да сьвятых Апосталаў":

| | |
|---|---|
| Святыи Петре, Богоизбранный апостоле, твердый камень вере, недвижимое основание Церкви, пастуше словесного стада Христова, ключарь царства небесного: Тя молю, всечестне, да обоимет мя божественная твоя мрежа , да ми извлечеши из глубины погибельныя. | Святый апостоле Петре, первый престольниче апостольски, твердый камень веры Христовы, недвижимое основание Церкви хрестианское, пастырю стада Ісусова, ключарю царства небеснаго, рыбарю глубины неведения, да обымет мя твоя мрежа, и да извлечет мя из глубины погибельныя. |

Наступныя прыклады з "Малітвы да сьвятых Апосталаў" паказваюць зьмены, зробленыя Скарынам у тэксьце:

| Кірыла Тураўскі | Скарына |
|---|---|
| 1.Святы Марко, Господен честныи арган, ибо во всю землю изыде вещаніе твоего сладкого гласа, украсивый Церьковь святыми ти словесы, Христовых таин списателю и всех чюдес Его благовестниче (*у іншай вэрсіі*: Святы Марко, Александрийскій і египетскій светильниче, Христовых таин списателю...) | 1. Святый Марко Александрийский, светильниче египетскій, непобедимый льве, Венециская похвало, Христовых чюдес объявителю... |
| 2. АДСУТНІЧАЕ | 2. Светый Якове, брате Іоанов, первый во апостолех мученику, иже Испанию и вся страны западныи своим телесем славне просвещаеши... |

Скарыну, які атрымаў ступень доктара лекарскіх навук ў Падуі, што знаходзіцца паблізу Вэнэцыі, было вядома, што патронам гэтага гораду быў сьвяты Евангеліст Марк. Ён быў таксама знаёмы з заходняй традыцыяй, згодна з якой цела сьвятога Апостала Якуба спачывае ў манастыры Сант'яго дэ Компостэльля ў Гішпаніі, вядомым месцы паломніцтваў у тыя часы. Магчыма Скарына сам хадзіў на пакланеньне мошчам апостала.

У Пачаеўскім (уніяцкім) малітаўніку 1809 г. знаходзіцца малітва аб муках Хрыстовых. Нягледзячы на позьнюю дату выданьня, у ёй адчуваецца стары арыгінальны тэкст. Відаць гэты тэкст паслужыў Скарыне асноваю для ягонай "малітвы аб муках Госпада нашага Ісуса Хрыста", як можна бачыць з прыведзеных урыўкаў:

| Скарына | Пачаеўскі малітаўнік[6] |
|---|---|
| Господи Ісусе Христе Сыне Бога живаго, сотворителю неба и земли, спасителю роду человеческаго, ныне я недостоины грешныи воспоминаю претяжкое вмучение Твое... | Господе Іисусе Христе, Сыне Бога живаго, творче неба и земли, Спасителю мира, се аз недостоиный, и паче всех грешнейший, смиренно колене сердца моего пред славою величества Твоего приклоняя, воспеваю и величаю безмерное страдание Твое... |

Некаторыя часткі той самай малітвы пераклікаюцца з Скарынавай "Малітвай да ўкрыжаванага Хрыста":

| Скарына | Пачаеўскі малітаўнік |
|---|---|
| Збавителю наш Господи Ісусе Христе, вижу Тя на кресте висяща, для превеликое милости юже имел еси к роду человеческому; главу имаши наклонену, хотяй всех нас молитвы выслухати; сердце имаши отворено, хотяй ласку свою всем дати; руце имаши ростягнены хотя всех к собе пригорнути; нозе имаши пригвожены хотя всегда с грешными быти; ныне молю ти ся прегоркое ради смерти Твоея, и честнаго креста Твоего, услыши и прими молитвы моя, и подай ми ласку свою, и пригорни мя к собе, и буди примне в час страшное и горкое смерти моея. Аминь. | Руце Твои пречистии распрострый на приятие всех, прійми мя грешного! Нозе пригвождены имевый, хотяй всегда с грешники быти, буди со мною грешным возбраняяй ногам моим от всякого пути лукаваго. Сердце отвертое имевый, яви благодать Твою мне грешному! Главу пречистую на Кресте преклонивый, услыши недостойныя молитвы моя. |



Нягледзячы на некаторае падабенства, малітва Скарыны мае дастаткова арыгінальных элементаў для таго, каб лічыць яе самастойным творам.

Дзьве іншыя малітвы напэўна трэба лічыць арыгінальнымі творамі Скарыны. Гэта "Малітва Імю Ісусаваму" і цудоўная "Малітва пабожная да Найсьвяцейшай Багародзіцы Марыі", першая частка якой зьяўляецца несумненна паэмаю, а другая напісаная рытмічнай прозай.

Безумоўна, не заўсёды лёгка вызначыць аўтарства або паходжаньне данай малітвы. Адной з іх ёсьць "Малітва пабожная да Анёла Апекуна" з яе разважаньнямі аб стварэньні сьвету, анёлаў і чалавека.

Мову акафістаў і малітваў Скарыны ў "Малой падарожнай кніжцы" можна акрэсьліць як "царкоўнаславянскую беларускай рэдакцыі", хоць у некаторых выпадках, як напр. у вышэй прыведзенай "Малітве да ўкрыжаванага Хрыста", яна набліжаецца да беларускай літаратурнай мовы пачатку XVI стагодзьдзя.

Скарына лічыцца пачынальнікам беларускага вершаскладаньня. У сваіх акафістах і малітвах ён паказаўся таленавітым паэтам. Як гімнограф, ён быў прадаўжальнікам традыцыі сьвятога Кірылы Тураўскага. Ягонае знаёмства з малітвамі беларускага Залатавуснага паказвае, што гэтая традыцыя ў ягоны час была жывою.

Акафісты і малітвы "Малой падарожнай кніжкі" кідаюць сьвятло на рэлігійныя перакананьні Скарыны. Перадусім можна з упэўненасьцю сказаць, кім ён ня быў. Чалавек, які адзначаўся глыбокай набожнасьцю да імя Ісусавага і напісаў цудоўную малітву ў гонар Багародзіцы, ня мог быць пратэстантам. З усяго відаць, што Скарыну былі знаёмыя і аднолькава блізкія як усходняя так і заходняя царкоўныя традыцыі. У Беларусі пасьля Флярэнтыйскага Сабору ўжывалася тэрміналёгія "закон грэцкі", "закон рымскі", замест "вера грэцкая", "вера рымская". Магчыма, Скарына быў хрысьціянінам "закону грэцкага", які прызнаваў зьверхніцтва Наступніка Сьвятога Пятра. Сёньня мы б назвалі яго уніятам...

Несумненна, далейшае вывучэньне спадчыны Скарыны прынясе шмат новых адкрыцьцяў адносна ягонай дзейнасьці і асобы.

Мэта, якая прысьвячала Скарыне ў ягонай дзейнасьці, была памагчы свайму народу жыць глыбейшым Божым жыцьцём. Хочацца спадзявацца, што ягоная духоўная спадчына, прадстаўленая тут сьціплым выбарам ягоных малітваў у перакладзе на сучасную беларускую мову, і ў сёньняшні дзень ня страціла сілы парушыць душы людзей і ўзьняць думкі і сэрцы да Бога.

а. Аляксандар Надсон

Лёндан, 1 кастрычніка 1992 г.
Сьвята Пакровы Найсьвяцейшай Багародзіцы

ЗАЎВАГІ

1. Больш пра "Малую падарожную кніжку" гл.: *Надсон А.*,"Кніга Скарыны ў Капенгагене". — Божым шляхам, № 5, Лёндан 1971, бач.9-11; *Nadson A.*, 'Skaryna's Prayer Book'. – The Journal of Byelorussian Studies, Vol.II, No.4, London 1972, pp.339-358.

2. Больш пра акафіст гл.: *Надсон А.*, "Некалькі слоў пра Акафіст". — Акафіст Найсьвяцейшай Багародзіцы, Лёндан 1992, бач.14-15.

3. Першы, хто выявіў акравершы з імем Скарыны ў вышэй памянёных акафістаў, быў *А. Турылаў* у "Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции".— Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. Тезисы докладов. Ленинград 1979, бач.45-46. Факсімільнае выданьне двух акафістаў гл. *Лабынцаў А.*, «Зерцало жития...», Менск 1991.

4. Акафисты в них же и каноны, стихири и стиховны на всю седмицу. Вільня 1628. Аўтар карыстаўся мікарфільмам паасобніка Каралеўскай бібліятэкі ў Капенгагене.

5. Тэксты малітваў сьв. Кірылы Тураўскага цытуюцца паводле выданьня: *Kirill von Turov*, Gebete. Eidos Verlag, München 1965. Яны зьяўляюцца перадрукам з выданьня ў часопісе "Православный собеседник" 1859 г.

6. Тэкст малітвы з Пачаеўскага малітоўніка 1809 г. цытуецца паводле выданьня: *Malzev A.*, Andachtsbuch der Orthodox-Katholischen Kirche des Morgenlands, Berlin 1895, s.795-98, дзе гэтая малітва перадрукаваная поўнасьцю.



ЗЬМЕСТ



Заўвага да ілюстрацыяў. Ілюстрацыі выкананыя пры дапамозе кампютара паводле гравюраў у "Малой падарожнай кніжцы". Узорам для загалоўных літараў паслужылі літары Скарынаўскіх пражскіх і віленскіх выданьняў.